# Пераход ад Сярэднявечча да Новага Часу



1450: Ёган Гутэнбэрг вынаходзіць спосаб друку, які дазваляе хутка і танна друкаваць кнігі.



1492: створаны першы глобус



1500: Петэр Хэнляйн вынаходзіць кішэнны гадзіньнік.

## Жыцьцё Лютара:

| | |
|---|---|
| 1483 | нарадзіўся ў Айсьлебэне |
| 1490-1500 | навучаньне ў Мансфэльдзе, Магдэбургу і Эрфурце |
| 1501-1505 | вывучае права ў Эрфурце |
| 1505 | манах у Эрфурце |
| 1507 | становіцца сьвятаром |
| 1508-1512 | вывучае багаслоўе ў Вітэнбэргу і атрымлівае ступень доктара. |
| 1517 | прыбівае тэзісы да дзьвярэй царквы |
| 1521 | аб'яўлены па-за законам і хаваецца ў Вартбургскім замку, дзе перакладае Новы Запавет |
| 1522 | вяртаецца ў Вітэнбэрг |
| 1525 | бярэ шлюб з Катарынай фон Бора |
| 1534 | выдае нямецкі пераклад Бібліі |
| 1546 | памірае ў Айсьлебэне |



Леанарда да Вінчы, між іншага, распрацоўвае помпы і лятаючыя машыны.



Каля 1514: Капэрнік адкрывае тое, што Зямля рухаецца вакол Сонца.





1492: Хрыстафор Калюмб ступае на зямлю Амэрыкі.



1517: Францішак Скарына пачаў друкаваць Біблію на беларускай мове

# МАРЦІН ЛЮТАР

## Чалавек, які зьмяніў сьвет




Ілюстрацыі: Ёган Саўэр Тэкст: Ульрыкэ Альбэрс

## Айсьлебэн 1483 г.















## Эрфурт 1500 г.














# Пост, малітва і праца

Праз два тыдні...

Марцін Лютар раздаў усю сваю маёмасьць і пачаў жыць у манастыры аўгустынцаў у Эрфурце.

Праз год, у 1506 г., ён складае манаскія шлюбаваньні. Яшчэ праз год ён становіцца сьвятаром.

Тры гадзіны раніцы, першыя малітвы...

Як я магу стаць перад Богам?

Працуючы на агародзе...

Дзе мне знайсьці адказы на свае пытаньні?

Уначы...

Як мне наблізіцца да Цябе?

Як вы набліжаецеся да Бога, браты мае?

Я пашчу два тыдні і п'ю толькі ваду.

Я спрабую наблізіцца да Бога, адмаўляючыся ад сну.

Я сяджу на холадзе, пакуль усё маё цела не губляе чульлівасьці, і тады я адчуваю еднасьць з Богам.

Я караю сябе за свае грахі.

Такія рэчы не дапамагаюць мне наблізіцца да Бога.

Бог, скажы мне, што я мушу рабіць?



## Вітэнбэрг 1508 г.

Жыцьцё працягваецца. У 1508 г. ордэн аўгустынцаў пераводзіць Лютара ў Вітэнбэрг. Там ён вывучае багаслоўе і ў 1512 г. атрымлівае ступень доктара тэалёгіі, а пасьля пачынае выкладаць ва ўнівэрсітэце Вітэнбэрга.



# Адкрыцьцё ад Бога

У чытальні манастырскай вежы Вітэнбэрга.

"Бо ў ім адкрываецца праведнасьць Божая ад веры ў веру, як напісана: «Праведны вераю жыць будзе»." (Пасланьне да Рымлянаў 1:17)

Вера ў Бога і шчырае пакаяньне за нашы грахі. Адзінае, што важна, – гэта вера ў Бога. Вось і ўсё!

Зразумеў!

Ён толькі што даў абяцаньне маўчаньня, каб наблізіцца да Бога.

Бог дае нам прабачэньне! Нам ня трэба нічога рабіць. Насамрэч, мы нічога і ня можам зрабіць.


















# Продаж індульгенцыяў

Марцін Лютар хвалюецца пра душы іншых людзей























## Аўгсбург 1518 г.



# Паўстаюць праблемы






Ідэі Лютара знаходзяць усё больш пасьлядоўнікаў. Ён становіцца кіраўніком руху, які жадае рэфармаваць Царкву. Але папа адлучае яго ад Царквы і 3 студзеня 1521 г. пра гэта абвяшчаецца ў папскай буле. Тым ня менш, усё больш людзей далучаецца да руху Рэфармацыі. Сярод іх Юстус Ёнас, сябар Лютара і дыякан замкавай царквы ў Вітэнбэргу.

Вясна 1521 г.

Юстус, імпэратар Карл V загадаў мне прыбыць на Вормскі сабор.

Можа, мне паехаць з табой? Магчыма, у нас атрымаецца пераканаць маладога імпэратара.

Па дарозе мы можам працягваць сваю працу.

Так, тады мне ня будзе так самотна.

Падчас паездкі з Вітэнбэрга да Вормса Лютара віталі паўсюль. Нягледзячы на папскую булу, ён прапаведуе ў Эрфурце, Гота, Айзэнаху і нават у Вормсе.

Я баюся, але Бог будзе са мной.

Не губляй мужнасьці. Ты ўжо шмат чаго дасягнуў.

Так, можа, гэта добрая магчымасьць давесьці, што я веру ў праўду Біблії.



## *Вормс 1521 г.*




17 красавіка 1521 г. сабраліся ўсе кіраўнікі Сьвятой Рымскай імпэрыі: імпэратар, князі, біскупы і вайсковыя начальнікі.

Ці ты напісаў гэтыя кнігі і ці ты выракаешся ўсяго гэтага?

Калі вы можаце з дапамогай Біблії даказаць, што я зрабіў памылку, то я адразу ж выракуся.












Мне канец.
Марцін!


Спалацін, сябра мой, што ты тут робіш?
Я тут у якасьці асабістага сакратара Фрыдрыха Мудрага, і я мушу сказаць табе, што ён на тваім баку і абароніць цябе.


Перадавай маю падзяку нашаму курфюрсту.


На зваротным шляху
Стаяць!
Лютар або сьмерць!


Вось Марцін Лютар. Бярыце яго, але пашкадуйце нас.




Лютара схапілі і зьвезлі прэч.




Як ты маг здрадзіць яму?
Гэта былі вершнікі папы, я ўпэўнены. Яны б нас усіх забілі.
Курфюрст Фрыдрых Мудры спланаваў выкрадканьне Марціна Лютара, каб абараніць яго.


Не хвалюйся! Мы вазем цябе ў бясьпечнае месца.


Мне ўсё гэта зусім не падабаецца. Я хачу вярнуцца ў Вітэнбэрг.


Твае сябры кантралююць сітуацыю. Філіп Мэлянхтон узначальвае іх, а Ёганэс Бугэнхагэн арганізуе ўсё. Цябе схаваюць у замку Вартбург.
Але...

## *Замак Вартбург, 1521 г.*


















Лютар працуе цэлымі тыднямі як апантаны. Ён зусім стомлены і запрацаваны.



У адну з раніцаў прыязджае Георг Спалацін.







20 верасьня 1522 г. першыя друкаваныя кнігі Новага Запавету перададзеныя курфюрсту Фрыдрыху Мудраму. Папа забараняе чытаць гэтую кнігу.













Яны разважалі пра тое, як палепшыць розныя сфэры жыцьця.



# Лютар і Сялянская вайна




Ён зьвяртаецца да бунтаўнікоў.









Лютар адварочваецца ад сялян і ад іхніх патрабаваньняў. Ён нават падтрымлівае безьлітасны перасьлед бунтаўнікоў уладамі.





На сьцягу паўстанцаў намаляваны чаравік. 15 траўня 1525 г. у вырашальнай бітве каля Франкенхаўзэна больш за 5000 сялянаў было забіта войскамі князёў і шляхты.



Лютар адчувае сваю віну за гэтыя падзеі, якая перасьледуе яго да канца жыцьця.

# Шлюб Лютара з Катарынай фон Бора

Катарына фон Бора была манашкай, якая ўцякла з манастыра ў 1523 г., калі пачула пра заклік Лютара рэфармаваць Царкву.



13 чэрвеня 1525 г. Лютар ажаніўся з Катарынай, якая была маладзейшай за яго на 16 гадоў. Яны былі любячай парай і выдатна дапаўнялі адно аднаго.




























## Шмалькальдэн 1531



# Шмалькальдэнская ліга

У 1530 г., на Аўгсбургскім саборы імпэратар Карл V адмовіўся прызнаць пратэстанцкае вызнаньне веры.




Як вынік, лютаранскія князі аб'ядналі свае сілы ў Шмалькальдэнскую лігу. Яны паабяцалі адзін аднаму падтрымку ў выпадку нападу імпэратара. Тут, у Шмалькальдэне, Лютар упершыню прадстаўляе сваё Вызнаньне веры.



Лютар нястомна працуе над рэформай Царквы.




Праца Лютара прыносіць плён. У 1534 г. выдадзеная Біблія на нямецкай мове ў перакладзе Марціна Лютара. Ідэі Рэфармацыі распаўсюджваюцца па ўсёй Эўропе. У 1522 г. пропаведзі пасьлядоўнікаў Лютара гучаць у Парыжы і ў Вільні. У 1523 г.Прусія становіцца першай лютаранскай краінай. У 1527 г. Швэцыя становіцца лютаранскай. У 1536 г. Данія рэфармуецца пад уплывам Ёганэса Бугэнхагэна. Марцін Лютар выслаў Біблію ў сваім перакладзе маладому вялікаму князю літоўскаму Жыгімонту Аўгусту.



# Сьмерць Лютара

Лютар памірае раніцай 18 лютага 1546 г.






Яго пахавальная працэсія рушыць праз Гале ў Вітэнбэрг, дзе ён пахаваны ў замкавай царкве Ўсіх Сьвятых.






Яго сябры Мэлянхтон і Бугэнхагэн праз чатыры дні прамаўляюць на ўспамін пра яго ў Вітэнбэргу.